# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 31(760) ● 12 жніўня 1994 г. ● Цана 60 руб.


● *ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?*



**Амаль 45 гадоў прысвяціў рабоце на Мінскім аўтазаводзе Міхаіл Сцяпанавіч Высоцкі, які пачаў свой працоўны шлях у сценах КБ гэтага завода.**

**Зараз, ужо будучы віцэ-прэзідэнтам АНБ, акадэмік М. С. Высоцкі застаецца на пасту галоўнага канструктара Беларускага аб'яднання па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў Белаўтамаз.**

**Ён — лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, заслужаны дзеяч тэхнікі Рэспублікі.**

*(Матэрыял, прысвечаны 50-годдзю МАЗа, чытайце на 3-й стар.).*

## Праект Пад нумарам 346

**Нядаўна ў Інстытут геалагічных навук АНБ прыйшло пісьмо з Парыжа ад доктара Уладзіслава Бабушкі, які з'яўляецца сакратаром Міжнароднай праграмы геалагічнай карэляцыі (МПГК) Аддзялення навук аб Зямлі ЮНЭСКА. У пісьме было паведамленне аб тым, што на 22-ой сесіі навуковага бюро МПГК з 20 праектаў у галіне геалагічных навук, якія былі вылучаны на разгляд ЮНЭСКА вядучымі вучонымі і навуковымі калектывамі розных краін, 10 былі падтрыманы гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыяй. У дзесятку лепшых упершыню ў гісторыі рэспублікі трапіў беларускі праект «Неагеадынаміка катлавіны Балтыйскага мора і сумежных абласцей», які быў прапанаваны віцэ-прэзідэнтам АНБ Р. Г. Гарэцкім і прафесарам Э. А. Ляўковым.**

**Ідэя гэтага праекта ўзнікла ў Інстытуце геалагічных навук некалькі гадоў назад, калі былі атрыманы першыя вынікі даследаванняў па навейшай тэктоніцы Беларусі. Выявілася, што ў неагене і антрапагене з-за неаднолькавай інтэнсіўнасці тэктанічных рухаў сфарміраваўся рэгіянальны перакос у бок Балтыкі, які закрануў найвялікшую частку тэрыторыі Беларусі. Актывізацыя тэктанічных працэсаў прывяла да фарміравання новай сеткі разломаў у зямной кары, змяненню нахілу паверхні і, як вынік, накірунку плыні буйных рэк, з'яўленню новаўтвораных геалагічных структур.**

**Адначасова стала зразумела, што рэканструяваць поўную карціну неатэктанічных працэсаў і выявіць прычыны, якія іх абумовілі, немагчыма без правядзення спецыяльных даследаванняў на больш вялікай тэрыторыі. Многія даныя сведчылі аб тым, што ключом да разумення найноўшай геадынамікі вялікага рэгіёна, які ўключае тэрыторыю Беларусі, Германії, Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, захада Расіі, Фінляндыі, Швецыі, Даніі, з'ўляецца вырашэнне праблемы паходжання катлавіны Балтыйскага мора, афармленне якой пачалося каля 400 тысяч гадоў назад і працягваецца да нашага часу.**

**Праграму сумесных фундаментальных навуковых даследаванняў падтрымалі спачатку спецыялісты Германіі і Польшчы, а затым і іншых краін рэгіёна. Яна прайшла міжнародную экспертызу і ў лютым 1994 года атрымала фінансавую дапамогу і статут дзеючага праекта ЮНЭСКА пад нумарам 346.**

**А. КАРАБАНАЎ,**
**загадчык лабараторыі неагеадынамікі Інстытута геалагічных навук АНБ.**

## Аб мінулым Брэсцкай зямлі

У канцы ліпеня ў Брэсце адбылася міжнародная канферэнцыя, якая праводзілася з нагоды 975-годдзя першага ўпамінання горада над Бугам у старажытным летапісу «Аповесці мінулых гадоў» (1019 год), а таксама з нагоды 50-годдзя вызвалення горада «Чырвонай Арміяй (28 ліпеня 1944 г.). Канферэнцыя таксама была прымеркавана да адзначэння трэцяй гадавіны незалежнасці Беларусі.

У горадзе адбыліся шматлікія культурна-масавыя, спартыўна-вайсковыя мерапрыемствы.

Удзельнікаў-навукоўцаў было звыш 80 чалавек з розных установ рэспублікі, Расіі, Польшчы, Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, прысутнічала вялікая колькасць турыстаў з гэтых краін, у асноўным з Польшчы. Агульны навуковы напрамак — гісторыя і сучаснасць Брэстчыны.

Даклады і паведамленні заслухоўваліся і абмяркоўваліся на пленарных пасяджэннях і ў дзвюх секцыях: «Ад самых старажытных часоў і да канца мінулага стагоддзя» і «Складаныя гістарычныя праблемы ў гісторыі XX стагоддзя». У газетнай інфармацыі няма магчымасці не толькі назваць усе даклады і паведамленні, але нават пералічыць імёны, прозвішчы дакладчыкаў. Аргкамітэтам з цягам часу будзе выпушчаны зборнік дакладаў і паведамленняў.

Аўтар гэтых радкоў на гэтым пасяджэнні зрабіў даклад на тэму «Антычныя багацці Бярэсця і іх сувязь са старажытнымі мясцовымі паселішчамі». Такія паселішчы ў межах горада выяўлены ў паўночна-ўсходняй частцы горада. Да 70-х гадоў меліся дзве вёскі — Бярозаўка і Задворцы. Ад тых гадоў да нашых дзён тут адбываецца забудова горада.

Удзельнікі канферэнцыі азнаёміліся з археалагічным музеем Бярэсця, які ўзведзены на месцы даследаваных частак замчышча раннефеадальнага горада, пры ўпадзенні аднаго з рукавоў Мухаўца ў З. Буг. Гэта адзін з выдатных помнікаў старажытнай культуры. Навукоўцы далі высокую адзнаку гэтаму музею.

Вялікае ўражанне на ўсіх зрабіў вячэрні феерверк у Брэсцкай крэпасці-герої ў сувязі з з пяцідзесяцігоддзем вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Л. ПОБАЛЬ,**
**член-карэспандэнт Міжнароднай Славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры.**

## СТВАРЭННЕ ГЕРМАНА-БЕЛАРУСКАГА ДОМА

**Садзейнічаць развіццю і інтэнсіфікацыі двухбаковых зносін ў галіне эканомікі, навукі, тэхналогій, прамысловасці, гандлю, інвестыцый і культуры паміж Рэспублікай Беларусь і Федэральнай Зямлёй Баден-Вюртэмберг будзе прызваны германа-беларускі Дом, які расчыніць свае дзверы яшчэ да пачатку верасня ў горадзе Карлсруэ, ФРГ.**

**Пратакол аб намерах стварыць такі Дом падпісалі яго заснавальнікі, якімі з'яўляюцца з Беларускага боку — Мінгарвыканком, Акадэмія навук Беларусі, Беларуская інжынерная тэхналагічная акадэмія, фінансавае таварыства «Інтэркантыненталь» пры актыўнай падтрымцы Міністэрства знешніх эканамічных сувязей РБ, з нямецкага — магістрат горада Карлсруэ, кампанія «Рупперт і Партнёры ГмбХ».**

**Ініцыятары так сфармулявалі задачы стварэння германа-беларускага Дома: пашырэнне доўгатэрміновых эканамічных і гандлёвых зносін, кансалцінгавыя паслугі нямецкім і беларускім прадпрыемствам, двухбаковы трансфер у галіне эканомікі, тэхналогій і ноу-хау, навучанне і стажыроўка спецыялістаў на двухбаковай аснове, садзейнічанне развіццю інвестыцый і сумесных прадпрыемстваў, а таксама кааперацыйных сувязей паміж беларускімі і нямецкімі прадпрыемствамі, пашырэнне культурнага абмену.**

**Германа-беларускі Дом зарэгістраваны на сродкі кампаніі «Рупперт і Партнёры ГмбХ» як таварыства з абмежаванай адказнасцю, якое функцыяніруе на беспрыбытковай аснове. А потым, праз год, гэта ТАА будзе пераўтворана ў агульнакарысны Фонд на шырокай аснове.**

**Ёсць надзея, што супрацоўніцтва паміж прадпрыемствамі і ўстановамі Германіі і Беларусі, каардыніруемае германа-беларускім Домам, створыць спрыяльныя ўмовы для далучэння да знешнеэканамічных сувязей у ФРГ патэнцыяла беларускіх даследчых структур.**

**М. ГОГАЛЕВА.**

# Дакладна ведаю, што будзе заўтра

***УНІКАЛЬНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ РАСІЙСКІХ ВУЧОНЫХ ПАКАЗАЎ, ШТО ЧАЛАВЕК ЗДОЛЬНЫ БАЧЫЦЬ БУДУЧАЕ Ў ЛІТАРАЛЬНЫМ СЭНСЕ ГЭТАГА СЛОВА***

Брытанскі фельдмаршал Герберт Кетчэнер верыў у фатум — прадвызначэнне лёсу. І заўсёды памятаў аб тым, што сказаў яму ў свой час вядомы прадказальнік Хейра: «Вас чакае вялікая небяспека — я бачу катастрофу на моры на шасцідзесятым годзе вашага жыцця».

Англійская газета за 1915 год, расказваючы аб наведванні Кетчэнерам перадавых пазіцый дзеючай арміі, напамінае такі эпізод: калі паблізу ўзарваўся снарад і адзін з суправаджаючых прапанаваў лорду пайсці ва ўкрыццё, той адмовіўся: «Мяне гэта не хвалюе. Я ведаю, што памру на моры».

Фатум не падвёў лорда. 5 чэрвеня 1916 года Герберт Кітчэнер, якому хутка павінна было «стукнуць» шэсцьдзесят гадоў, узышоў па палубу крэйсера, каб адплыць у Расію на перамовы. Карабель яшчэ знаходзіўся ў брытанскіх водах, калі адбыўся магутны ўзрыў. Разам з лордам у гэтай катастрофе загінула яшчэ каля сотні маракоў...

Прадвызначанасць нашага лёсу ў нейкай ступені пацвярджае і хрыстаматыйны выпадак з амерыканскімі блізнятамі Спрынгерам і Льюісам. Па волі абставін яны былі разлучаны яшчэ маленькімі і ўпершыню сустрэліся толькі праз 39 гадоў. І тут высветлілася, што іх лёсы былі гэтак жа падобныя, як і твары. Жонкі іх насілі адны і тыя ж імёны: у першым шлюбе — Лінда, у другім — Бетсі. Сваіх сыноў яны назвалі таксама аднолькава: Дэймс-Ален. Больш таго, абодва браты вадзілі машыну адной мадэлі і колеру, а ў вольны час займаліся разьбой па дрэву.

Магчыма, нехта скажа, што гэта — выпадковае супадзенне. Але вучоныя ўстанавілі, што аднаяйкавыя блізняты (незалежна ад таго, што адзін жыве ў горадзе, а другі — у вёсцы, адзін на поўначы, другі на поўдні) у адзін і той жа час хварэюць падобнымі хваробамі, адначасова старацца і паміраюць — розніца бывае літаральна ў некалькі месяцаў.

І ўсё ж большасць вучоных не верыць у фатум, лічачы, што кожны чалавек сам гаспадар свайго лёсу. Такая пазіцыя дазваляе ім адмаўляць і феномен прароцтва. Сапраўды, як прадказальнік можа бачыць падзеі яшчэ не надыйшоўшых дзён, калі яны яшчэ не вызначаны? Але вось па гэтаму распаўсюджанаму пункту гледжання быў нанесены адчувальны ўдар.

**З архіва камісіі «Фенамен»**

**Ёсць у горных атрогах Кузнецкага Алатау ў Хакасіі «Пячора чорнага д'ябла», аб якой ужо шмат вякоў ідзе нядобрая слава. Легенды расказваюць, што там жыве здань, адным толькі позіркам забіваючая смельчакоў, якія рызыкнулі парушыць яго спакой.**

**У 1985 годзе група спелеолагаў пабывала ў гэтым загадкавым месцы і пацвердзіла: «Так, чалавек у пячоры адчувае невытлумачальны страх, у падземных галерэях валяюцца груды нейкіх касцей, а ў адным з гротаў удзельнікі экспедыцыі бачылі здань з палаючымі вачыма»... Далейшыя даследаванні, праведзеныя супрацоўнікамі Новасібірскага інстытута агульнай паталогіі і экалогіі чалавека, паказалі, што пячора з'яўляецца магутнай геапатагеннай зонай. Прыборы зарэгістравалі імпульсы выпраменьвання, якое аказвае моцнае псіхафізічнае ўздзеянне на чалавека. Таму калі вучоныя пачалі маштабны эксперымент па праверцы магчымасцяў існавання дыстантнай (тэлепатычнай) мысленнай сувязі, то «Пячора чорнага д'ябла» увайшла ў спіс тых месцаў, адкуль павінны былі перадавацца мысленныя сігналы.**

Па словах удзельнікаў экспедыцыі ў Хакасію, эксперымент выглядаў так:

...Апператар, у задачу якога ўваходзіла транслiраваць мысленныя вобразы, размясціўся ў Спальным гроце на глыбіні 15 метраў. Гэтую залу выбралі не выпадкова. У цэнтры яе знаходзіцца апрацаваны сталактыт, на якім старажытныя людзі здзяйснялі крывавыя абрады, прыносячы ў ахвяру сваім багам жывёлу і нават людзей. Побач — бяздонны калодзеж, куды скідвалі рэшткі ахвяр, дакладней, нават не калодзеж, а правал. І Спальны грот, па сутнасці, толькі казырок, які навіс над безданню. Тут асабліва моцна адчуваецца энергетычнае «дыханне» зямлі, і вучоныя спадзяваліся, што гэта ўзмацніць тэлепатычны сігнал.

У вызначаны час кіраўнік экспедыцыі Ю. Марчанка ўскрыў канверт, у якім знаходзілася фатаграфія якога-небудзь сімвала. Апрача звычайных карт Зенера, традыцыйна выкарыстоўваемых у парапсіхалагічных доследах, на гэты раз яшчэ былі выявы так званых эмацыянальна-эвалюцыйных вобразаў, захоўваемых у памяці любога чалавека,— сонца, полымя, конь, крыж... Аператар, гледзячы на здымак, спрабаваў мысленна перадаць вобраз даследчыкам, якія знаходзіліся на прыёме...

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

● НАШЫ ЮБІЛЯРЫ

# МАЗу — пяцьдзесят!

*9 жніўня 1994 г. Мінскі аўтазавод — першынец беларускага аўтамабілебудавання — адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. За гэтыя гады калектывам завода створана і ўкаранёна ў вытворчасць шэсць пакаленняў аўтамабільнай тэхнікі.*

**Вытворчасць пачыналася з адзіночных грузавых аўтамабіляў. У далейшым на заводзе была створана цэлая гама спецыялізаваных аўтамабіляў і аўтапаяздоў, якая ўключае звыш 50 мадэляў і мадыфікацый: самазвалы і самазвальныя аўтапаязды, лесавозныя аўтамабілі, поўнапрывадныя аўтамабілі павышанай прахаджальнасці, спецыялізаваныя шасі для ўстаноўкі на іх аўтакранаў, цыстэрн і**



**палівазапраўшчыкаў, буравых установак, цэментавозаў і іншай тэхнікі спецыялізаванага прызначэння.**

**Пра многія распрацоўкі МАЗа можна сказаць: упершыню ў айчынным аўтабудаўніцтве. Напрыклад, стварэнне і ўкараненне ў вытворчасць аўтамабіляў і аўтапаяздоў спецыяльна для магістральных міжнародных і міжгародных перавозак грузаў.**

**Таксама упершыню у айчынным аўтамабілебудаванні, пачынаючы з сямейства МАЗ-500,**



**выканана кампаноўка аўтамабіляў на схеме «абарочваючаяся кабіна над рухавіком». Галоўным накірункам работы пры стварэнні аўтамабіляў і аўтапаяздоў з'яўляецца забеспячэнне высокай прадукцыйнасці транспартнай працы пры мінімальнай металаёмкасці і энергетычных затратах, а таксама высокай надзейнасці, камфартабельнасці. Тое, што МАЗы адпавядаюць гэтым высокім патрабаванням, пацверджана міжнароднымі цэнтрамі па сертыфікацыі.**

**Сучаснае аўтамабілебадаўніцтва належыць да ліку найбольш мабільных галін, і павінна хутка рэагаваць на ўсе дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу. Таму зразумела, што ва ўсім свеце рэзка скараціўся тэрмін стварэння новых машын. Шматгадовы вопыт стварэння прагрэсіўнай тэхнікі на МАЗе паказаў, што максімальнага паскарэння работ можна дасягнуць толькі пры дапамозе фундаментальнага навуковага пошуку, падмацаванага мэтанакіраванымі прыкладнымі даследаваннямі, якія непасрэдна пераходзяць у праектна-канструктарскія працы. Таму МАЗ заўсёды шукаў новыя сувязі вытворчасці з навукай. Створаны у 1975 годзе на грамадскіх пачатках акадэмічны аддзел праблемных даследаванняў грузавых аўтамабіляў, быў пераўтвораны ў 1979 годзе ў навукова-вытворчае аб'яднанне «Аўтафізтэх», што дапамагло прыцягнуць навуковы патэнцыял акадэмічных інстытутаў і вузаў да стварэння аўтамабільнай тэхнікі на высокім тэхнічным узроўні і ў кароткі тэрмін.**

**Нарэшце, у 1992 г. у складзе Акадэміі навук рэспублікі быў арганізаваны Навуковы цэнтр праблем механікі машын, які дазваляе каардынаваць і эфектыўна выкарыстоўваць навуковы патэнцыял для выканання сумесных праграм у галіне машынабудавання. У працэс праектавання былі ўкаранёны аўтаматызаваныя сістэмы на базе электронна-вылічальнай тэхнікі, якія уключаюць аўтаматызаваную распрацоўку тэхнічнай дакументацыі, дызайна, кампаноўкі кабін у трохмернай выяве з выкарыстаннем магутных графічных станцый з інтэграванай сістэмай САД/САМ тыпу Эуклід, з дапамогай якіх распрацоўваюцца праграмы для станкоў з лікавым праграмным кіраваннем і робіцца аснастка для вытворчасці дэталяў.**

**Для разлікаў выкарыстоўваецца больш за 120 праграм, у тым ліку такія, якія дазваляюць мадэліраваць рух аўтапоезда па рэальнай дарозе і аптымізаваць яго параметры.**

**Для скарачэння часу на дапрацоўку канструкцыі аўтамабіля распрацаваны методыкі паскораных стэндавых выпрабаванняў, тэхнічнай асновай якіх з'яўляюцца модульныя хутка пераналаджваемыя стэнды з выкарыстаннем электрагідраўлічных цыліндраў і праграмна-апаратурныя сродкі на базе ЭВМ, што скарачае час для ацэнкі рэсурса у 300 і больш разоў у параўнанні з выпрабаваннямі ў эксплуатацыі.**

**Усё гэта дазваляе зараз весці праектаванне новага пакалення грузавых аўтамабіляў і аўтапаяздоў на высокім навуковым і тэхнічным узроўні, своечасова адгукацца на патрэбы спажыўцоў, прадбачыць і прагназіраваць перспектывы развіцця вытворчасці эфектыўных транспартных сродкаў.**

**С. АСТАПЧЫК,**
**акадэмік АНБ.**

**НА ЗДЫМКАХ: серыйная мадэль МАЗа; перспектыўная мадэль, створаная канструктарскім бюро пад кіраўніцтвам акадэміка АНБ М. С. Высоцкага.**

# З чаго пачынаўся розум

**Каноны навуковай строгасці патрабуюць ад аўтара адпраўляць у друк толькі тое, што не аднойчы праверана і даказана, і ў гэтым ёсць вялікі сэнс: навуковыя веды павінны быць надзейнымі, каб ім можна было давяраць і выкарыстоўваць як навуковыя факты.**

**Аднак ёсць у гэтым адно «але»: аўтар застаецца сам-на-сам са сваімі меркаваннямі і гіпотэзамі і, бывае, гадамі «варыцца ва ўласным саку». Так, у навуковых часопісах гіпотэзы «не глядзяцца», у газеце ж для навукоўцаў накшталт «Навін» ім самае месца.**

**Прапануем нашым чытачам пакорпацца ў сваіх навуковых запісах і прапанаваць нешта для друку. Сэнс у такой публікацыі ёсць, прычым значны: па-першае, аб вас даведаюцца як аб аўтары гіпотэзы, а па-другое, яна можа прыцягнуць увагу зацікаўленага чытача — прыхільніка вашай гіпотэзы, ці яе апанента, што дасць вам новыя стымулы для яе творчага развіцця.**

**Запрашаем у наш клуб «Гіпотэза» — са сваімі прапановамі і меркаваннямі з нагоды публікацый.**

Стадыя павольнага астывання Зямлі доўжыцца каля 5 млрд. гадоў. Яго прычыны зразумелыя. Па-першае, усе больш радыеактыўных элементаў у нетрах планеты становіцца стабільнымі, іх цеплатворная здольнасць спадае. Па-другое, падае цеплавы паток ад Сонца. Вымярэнні амерыканскіх і швейцарскіх астраномаў паказваюць, што ёсць заканамернае змяншэнне яркасці Сонца на 0,015—0,019 працэнтаў у год. Гэта значыць, што 5 млрд. гадоў назад яркасць Сонца была вышэйшая болей чым у 75 млн. разоў.

Цяпло выключна неабходнае для існавання раслінна-жывёльнага свету. У нядаўнім геалагічным мінулым (каля 70 млн. гадоў назад) расліны і жывёлы не патрабавалі сонечнага цяпла. Сонца было патрэбна раслінам толькі як крыніца светлавой энергіі для фотасінтэзу. Каля паўмільярда гадоў цяпло жывым арганізмам у дастатку давала Зямля, бо яе паверхня была нагрэта да 20—50 градусаў. З-за астывання планеты «радыеактыўнага» цяпла перастала хапаць. І вось ужо каля 70 млн. гадоў зямное жыццё «арыентуецца» на сонечнае цяпло.

Палеанталагічныя даследаванні паказваюць, што толькі ў кайназойскую эру (апошнія 66 млн. гадоў) з'явіліся і пачалі займаць усе большыя прасторы стэпы, лесастэпы, пустыні, тундры, лесатундры, ледніковыя покрывы. Дзесяткі мільёнаў гадоў да гэтага кантыненты і астравы былі пакрыты густымі лясамі. З-за пахаладання цеплалюбівыя гіганцкія дрэвы пачалі уміраць, іх месца занялі марозаўстойлівыя ліставыя і хваёвыя лясы. Аднačасова пад уплывам холаду ўзніклі жывёлы, пакрытыя поўсцю, птушкі з цеплаахоўным апярэннем, марскія жывёлы з цеплаізаляцыйным слоем тлушчу.

У палеагенных (40—50 млн. гадоў назад) адкладах Грэнландыі знаходзяць споры і пыльцу секвойі, лаўра, магноліі і іншых цеплалюбівых раслін, што сведчыць аб існаванні ў гэтым рэгіёне міжземнаморскага клімату. У 1986 г. вучоныя, што праводзілі даследаванні ў Антарктыдзе, знайшлі напаўакамянелыя фрагменты дрэў. Гэта былі астанкі лесу, які рос тры

## *КЛУБ «ГІПОТЭЗА»*

мільёны гадоў назад у 640 км ад паўдзённага полюса. На востраве Шпіцберген 100 млн. гадоў назад быў цёплы, субтрапічны клімат,раслі густыя папаратнікавыя лясы. Таму там утварыліся вялікія запасы каменнага вугалю, які зараз у вялікай колькасці дабываецца.

Ісландыя і Грэнландыя зусім нядаўна (1000 гадоў назад) мелі не вельмі халодны клімат. Там раслі хваёва-ліставыя лясы, вадзіліся мнагастайныя звяры. Таму там узніклі дзесяткі паселішчаў вікінгаў. За нейкія 400 гадоў гэтыя паселішчы ў Грэнландыі з-за пахаладання, масавай гібелі жывёл і лясоў прыйшлі ў запусценне. Снег на палях не раставаў круглы год, і раслінаводства стала немагчыма. Насельніцтве Ісландыі з-за пахаладання і голаду скарацілася ў параўнанні з XVI—XVII ст. удвая.

Факты пераконваюць, што 3—4 млн. гадоў назад на ўсіх кантынентах быў трапічны і субтрапічны клімат, нават Антарктыда была пакрыта лясамі. Трапічныя лясы раслі на Алясцы, у Грэнландыі, Сібіры, на тэрыторыі сучасных пустынь Сахары, Каракумаў, Гобі. Горы у тыя часы да вышынь 6—7 км былі пакрыты густой раслiннасцю.

Да 3 млн. гадоў назад статкі чалавекападобных малпаў насялялі ўсе кантыненты, у тым ліку і Антарктыду, а таксама Грэнландыю і Сібір. Уся суша ў той час была пакрыта трапічнымі лясамі, з разнастайнай расліннай і жывельнае ежай для чалавекападобных малпаў. Калі б такі спрыяльны клімат працягваўся далей, разумнае жыццё на Зямлі не ўзнікла б.

Парадокс тут толькі ўяўны. Калі на жывёлу ўздзейнічаюць холад і голад, ёй недастаткова мець агромістую фізічную сілу, лоўкасць, хуткасць бегу. Каб выжыць, неабходны яшчэ Розум: пабудаваць жыллё для захавання цяпла, навучыцца дабываць агонь, стварыць прылады для палявання і рыбалоўства, арганізаваць калектыўнае паляванне і г. д.

У неспрыяльных кліматычных умовах прага жыцця нашых далёкіх продкаў трансфармавалася ў прымітыўны інтэлект. Аб'ектыўная рэальнасць паставіла перад малпамі выбар: памерці альбо паразумнець.

Пахаладанне клімату — галоўная прычына ўзнікнення Розуму на Зямлі. Месцамі ўзнікнення чалавецтва з'яўляюцца тыя раёны зямнога шара, дзе 3 млн. гадоў назад пачалося інтэнсіўнае пахаладанне. Несумненна, што першымі тэрыторыямі з халодным кліматам былі палюсы холаду: у паўдзённым паўшар'і — Антарктыда, у паўночным — Якуція. З пункту гледжання гэтай канцэпцыі, першыя «калыскі» чалавецтва былі ў Антарктыдзе і ў Паўночнай Сібіры. І можна аспрэчваць пашыраную ў антрапалогіі думку, што першыя людзі з'явіліся ў субтрапічных лясах Афрыкі.

**В. МОЛАСТАЎ**
**(З кнігі «Естественная «смерть» космических тел, биосферы і цивилизации», выдадзенай на сродкі аўтара).**

# Знаходкі палеантолагаў

**У пустыні Цэнтральнай Аўстраліі палеантолагі знайшлі тысячы рэшткаў рыб, якія жылі ў моры 485 млн. гадоў таму назад, і гэтыя рэшткі будуць адыгрываць ключавую ролю ў ажыццяўленні міжнароднай праграмы, якая прадугледжвае вызначэнне ўзросту горных парод і разведку прыродных рэсурсаў з выкарыстаннем мікрарэшткаў выкапневых пазваночных.**

**Палеантолагі зацікавіліся адкрыццём аўстралійскіх вучоных, бо яно дае новыя звесткі аб рыбах, якія жылі ў палеазойскую эру 540—250 млн. гадоў таму назад. Вывучэнне гэтых рыб будзе спрыяць разуменню біялагічных і геалагічных змен, якія адбыліся пры з'яўленні на Зямлі першых жывёл.**

# Вінаваты вулканы

**Міжнародная група даследчыкаў лічыць вулканічныя вывяржэнні, якія адбываліся ў Сібіры 250 млн. гадоў назад, прычынай вымірання больш 60 працэнтаў існаваўшых тады відаў раслін і жывёл.**

**Масавае выміранне ў канцы пермскага перыяду было такой жа важнай падзеяй, як гібель дыназаўраў 65 млн. гадоў назад, — гэтакая думка кіраўніка гэтай групы Іана Кемпбела (Аўстралійскі нацыянальны універсітэт).**

**Даследчыкі міжнароднай групы, у якую ўваходзілі вучоныя з геалагічнай службы ЗША і цэнтральнага навукова-даследчага геолага-разведачнага Інстытута Расіі, выкарысталі новыя метады датавання цыркона, які сустракаецца ў выглядзе ўключэння ва ўзорах вулканічных нікелевых руд Сібіры. Па словах Кемпбела, выяўлена блізкае супадзенне па часу вывяржэнняў і знікнення многіх відаў раслін і жывёл.**

# *ДАЕШ ВЕНЕРУ!*

**Японскі дзяржаўны інстытут касмалогіі абнародаваў амбіцыёзную праграму заваявання лідыруючых пазіцый у даследаванні Сонечнай сістэмы з дапамогай аўтаматычных станцый з навейшымі іоннымі рухавікамі.**

**Ужо ў 1997—1998 гадах маецца намер накіраваць занды на Луну і Марс. Затым з 2002 па 2006 гады аўтаматычная станцыя здзейсніць падарожжа на адну з малых планет, возьме там унікальную пробу глебы і даставіць яе на Зямлю. Услед за гэтым да 2010 года занды будуць накіраваны на Меркурый, Венеру і Юпіцер.**

● *ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ?*

# Які хлеб трэба есці?

**На што людзі найперш звяртаюць увагу, купляючы хлеб? Адны — на яго смакавыя якасці, другія — на яго цану. І мала хто цікавіцца карыснымі якасцямі набываемага хлеба. Па гэтай прычыне хлеб «жытні дыетычны», які лічыцца найбольш здаровым, карысным для здароўя, не карыстаецца вялікім попытам у народзе. Хочацца верыць, толькі пакуль...**

**Па даным навукі, у вонкавым слоі і зародышы зерняў хлебных злакаў утрымліваецца каля 80 працэнтау усіх біялагічна актыўных рэчываў, што маюцца ў зярнятах (мінеральныя элементы, вітаміны, ферменты і г. д.). Аднак, мы іх пазбаўляемся, калі ў сваёй безутрымнай пагоні за звышсмачным выдаляем з мукі вотруб'е, якое потым ідзе на корм жывёле.**

**Вучонымі ўстаноўлена таксама, што харчовыя валокны, асабліва натуральныя, з'яўляючыся сарбентамі (паглынальнікамі), садзейнічаюць зніжэнню ўтрымання ў крыві халестэрына. Тое ж адбываецца з радыенуклідамі ежы.**

**Аднак калі вотруб'е грубага хлеба са 100-працэнтнай (непрасеянай) мукі не толькі прыносіць і аддае арганізму шмат карыснага, але і выводзіць з яго нямала непатрэбнага і шкоднага, дык тое ж вотруб'е, дабаўленае да белай мукі (што і робіцца пры выпечцы хлеба з вотрубяў) здольна паглынаць і выводзіць з арганізму разам са шкоднымі і карысныя рэчывы. Напрыклад, кальцый.**

**З усяго вышэйсказанага выцякае наступнае: каб хлеб быў здаровым, у ім трэба захаваць усе біялагічныя рэчывы, закладзеныя прыродай у зерні. І якіх недахопаў не меў бы такі хлеб, але калі ён прыгатаваны з мукі цэльнага памолу, — ён прынясе людзям толькі здароўе, бо ў ім захаваны прыродны баланс рэчываў. І, наадварот, якім бы смачным не быў хлеб, але калі ён выпечаны з мукі прасеянай — такі хлеб пусты, нездаровы.**

**Калі харчавацца нейкім адным прадуктам, то ні на чым іншым чалавек не пражыве так доўга, як на хлебе і вадзе. Праўда, калі хлеб здаровы. Менавіта таму манахі-схімнікі працяглыя часы жылі толькі на такім хлебе.**

**Хлеб «жытні дыетычны» адпавядае галоўнай умове здаровага хлеба — ён выпякаецца з непрасеянай мукі. Усе іншыя віды чорнага хлеба, якія мы бачым на прылаўках, вырабляюцца з 85-працэнтнай («абдзірной») мукі, у якой няма вотрубяў.**

**Другая асаблівасць «жытняга дыетычнага» у тым, што ў ім няма солі. Па-першае, у нашым харчаванні і без таго дастаткова солі. І, па-другое, гэта дае магчымасць усім, хто жадае перайсці на бяссолевы харчовы рацыён, уключыць у яго здаровы хлеб.**

**Але хлеб «жытні дыетычны» мае і свае недахопы. Асноўны з іх — хлеб выпякаецца з мукі хаця і цэльнай, аднак мелкага памолу. Многія спажыўцы гэтага хлеба хацелі б, каб яго кіслотнасць была ніжэйшай. Кіраўнікі «Мінскхлебпрама» заяўляюць, што калі попыт на хлеб «жытні дыетычны» значна ўзрасце, можна будзе змяніць усю тэхналогію яго выпечкі. Пачынаючы з вытворчасці мукі буйнога памолу.**

**В. ШУМІЛАЎ,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**

● ВАША ЗДАРОЎЕ

# ЭКСТРАКТ ГУО, КАНЕШНЕ, НЕ ПАНАЦЭЯ, АДНАК ТАЎСТУНАМ ДАПАМАГАЕ ДОБРА

## НОВЫЯ ФАКТЫ АБ НЕВЕРАГОДНЫХ ВЫПАДКАХ ХУТКАГА ПАХУДЗЕННЯ

**«Цудадзейная сіла экстрату Гуо» — так называўся матэрыял, які быў надрукаваны у «Народнай газеце» 12 мая г. г. і выклікаў сапраўдны шквал чытацкіх лістоў. Тых, хто яшчэ толькі збіраецца паспрабаваць на сабе сілу экстракту, парадуем: у нас ужо ёсць нямала станоўчых фактаў яго выкарыстання.**

Нагадаем, што гаворка ў тым артыкуле ішла аб слімінгавым (для пахудзення) экстракце, вынайденым кітайскім дыетолагам прафесарам Гуо Міньюань. Гэты парашкападобны прэпарат, які атрымаў назву экстракта Гуо ў гонар сваёй першаадкрывальніцы, пачаў трыумфальнае шэсце па ўсіх кантынентах. Яно і зразумела: клінічныя эксперыменты з вялікай колькасцю пацыентаў паказалі 100-працэнтную прыгоднасць экстракту для лячэння атлусцення, што ў сваю чаргу адпавядае самым высокім сусветным стандартам. Зыходзячы з гэтага, у 1994 годзе Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь быў выдадзены сертыфікат якасці, які дазваляе прымяняць экстракт Гуо на тэрыторыі рэспублікі. Першыя партыі экстракту ўжо з'явіліся у аптэках Мінска. Экстракт Гуо ўяўляе сабой парашок, які, змешваючы з гатаванай вадой, неабходна прымаць тры разы на дзень замест снедання, абеду і вячэры на працягу 10 дзён. Пры гэтым губляецца ад 500 грамаў да аднаго кілаграма вагі ў дзень. Курс, пры жаданні, можна паўтарыць. Экстракт складаецца з шэрагу натуральных прадуктаў, уключаючы злакі, гарох, бабовыя культуры, малако, грыбы, марскія прадукты. Асноўныя харчовыя рэчывы — кальцый, фосфар, жалеза, цынк, ёд. Акрамя таго, вітаміны РР, $А_1$, $В_1$, Д, С, Е, што утрымліваюцца у патрэбных колькасцях, дазваляюць атрымліваць аптымальнае харчаванне, пры якім чалавек не адчувае назойлівага пачуцця голаду. А гэта, згадзіцеся, вельмі важны момант. Экстракт таксама садзейнічае вылечванню цэлага шэрагу захворванняў, звязаных з атлусценнем, у тым ліку высокага крывянога ціску, высокага ўзроўню тлушчаў у крыві, дыябету, каранарных сардэчна-сасудзістых захворванняў, спрыяе фізічнаму і разумоваму развіццю, узмацняе імунітэт у маладых і папярэджвае рак кішэчніка ў сталых людзей.

Адным з першых дзейнасць экстракту Гуо паспрабаваў на Беларусі 30-гадовы Мікалай Дабравольскі. Пры росце 167 см гэты малады чалавек важыў ажно 112 кілаграмаў. За два месяцы, прайшоўшы чатыры курсы харчавання, ён згубіў 35 кілаграмаў лішняй вагі.

Жыхарка Жодзіна Жана Пачтар таксама вельмі доўга не магла пазбавіцца ад лішняй вагі. Пры 175 сантыметрах росту яна важыла 109 кілаграмаў. Але ўжо пасля першага курсу харчавання экстрактам Гуо яна пахудзела на 12 кілаграмаў, ды яшчэ спадарожна разышлася кіста. Зараз Жана адчувае сябе выдатна і пачала праходзіць другі курс.

Мінчанка Галіна Заяц за курс ужывання прадукта згубіла ў вазе 7 кілаграмаў, нармалізаваўся ціск. На чацвёртыя суткі прыёму экстракту перастала балець нага (зніклі шпоры на ступні).

Мінчанін Цімур Яўсеевіч Эвенчык адважыўся нават на тры курсы прыёму запар. У выніку ён палягчэў ад на 30 кілаграмаў.

Жыхар Магілёва Алег Віктаравіч Любы толькі за першыя 5 дзён харчавання экстрактам Гуо страціў у вазе 8 кілаграмаў, а у цэлым за два курсы — больш як 20 кілаграмаў. Аляксандр (прозвішча прасіў не ўказваць), спартсмен-цяжкаатлет, для «падтрымання» адпаведнай формы грашыў тым, што глытаў анаболікі. Але вынік аказаўся, мякка кажучы, адмоўным — вага цела пачала расці. І толькі за два курсы харчавання экстрактам Аляксандр змог скінуць 26 кілаграмаў лішняй вагі. Пасля невялікай «перадышкі» ён мае намер прыступіць да чарговага курса.

Адназначна: сёння экстракт, вынайдзены прафесарам Гуо Міньюань, карыстаецца ў Беларусі павышанным попытам. І, зразумела, пры такой эфектыўнасці кошт 10-дзённага курса прыёму у два, а то і больш разоў танней кошту аналагічных прадуктаў, якія садзейнічаюць пахудзенню.

Улічваючы той рэзананс, які выклікаў надрукаваны раней матэрыял і які, магчыма, выкліча гэты, для ўсіх, хто пажадае набыць «цудадзейны» экстракт ці атрымаць дадатковую інфармацыю, друкуем некалькі тэлефонаў у сталіцы і ў іншых гарадах Беларусі:

Мінск — 43-14-97, 34-43-15, 20-18-23, 50-16-93;
Баранавічы — 68-662;
Гомель — 57-43-10;
Гродна — 47-07-20;
Салігорск — 37-127;
Полацк — 34-959.

Ягор КАРНІЛАЎ.

● З ПУБЛІКАЦЫЙ ДАЎНЕЙШЫХ І НЕ ВЕЛЬМІ

# Найвялікшы з тых, хто ніколі не жыў

**У сярэдзіне XVIII стагоддя было знойдзена завяшчанне Шэкспіра. Яно выклікала агульны канфуз. Чаму Вялікі Бард у апошняй волі ні словам не згадаў сваю духоўную спадчыну? Няўжо ўсе думкі ён звярнуў адно на посуд і вопратку, «другі па якасці ложак», пакінуты жонцы, шылінгі і пенсы з улікам працэнтаў ад іх?**

**«Кожны, хто верыць, што гэты чалавек мог напісаць «Гамлета» і «Ліра», проста дурны», — сцвярджаў Джон Брайд, дзяржаўны дзеяч і пісьменнік. Найвялікшым з ніколі не існаваўшых людзей назваў Шэкспіра Марк Твен.**

**Пазней шэкспіразнаўцы прыдумалі розныя выкрутлівыя тлумачэнні «дзівосам» завяшчания. Але сумненні не развеяліся.**

*Што сапраўдна вядома пра чалавека* па прозвішчу Шэкспір (дакладней — Шэкспер: у шасці выяўленых ягоных подпісах пад дакументамі, нават пры адрозненні іх напісання, слова гучыць менавіта так)? Вядома пра яго, аказваецца нямала. Факт, што быў ён непісьменны (розныя напісанні прозвішча гэта засведчваюць: подпісы выведзены не ім, а пісцамі — будзь Шэкспер пісьменны, у сваім прозвішчы ён бы не памыліўся), і бацькі ягоныя былі непісьменныя, і жонка, і дзеці. Ні разу ў жыцці не выязджаў ён за межы Англіі. Нішто не пацвярджае, што іграў ён на сцэне, хаця пайшчыкам акцёрскай трупы сапраўды быў. Вёў, і паспяхова, дзелавыя аперацыі: купляў солад, прадаваў солад, даваў грошы ў рост, судзіўся з кавалём, які не вярнуў своечасова доўгу... Адно няма ніводнага факта дачынення ягонага да чаго-кольвечы духоўнага.

Ці мог Шэкспер напісаць вершы і п'есы, у лексіконе якіх не менш дваццаці тысяч слоў — у два-тры разы больш, чым у самых адукаваных, літаратурна адораных сучаснікаў? Адкуль у Шэкспера валоданне мовамі — французскай, італьянскай, іспанскай, лацінскай, грэчаскай, выдатнае веданне антычнай літаратуры, міфалогіі, гісторыі Англіі, дасведчанасць у юрыспрудэнцыі, ваеннай і марской справе, музыцы, батаніцы, рыторыцы, у прыдворных звычаях, правілах этыкету і многім іншым, пра што сведчаць творы?

Чым больш адшуквалася фактаў, тым больш было і сумненняў: чый жа твар скрываецца за маскай Шэкспіра? Пладзіліся розныя версіі. Адны сцвярджалі, што Шэкспір — гэта філосаф Фрэнсіс Бэкан, другія — выхаванец Бэкана — граф Рэтленд, трэція — граф Дэрбі, чацвёртыя — граф Оксфард, пятыя — драматург Крыстафер Марло. Больш за пяцьдзесят кандыдатаў «балаціраваліся» на ролю Шэкспіра.

У Расіі больш за ўсё схіляліся да Рэтленда (гэтак лічыў, у прыватнасці, і Уладзімір Набокаў). За гэтую версію гаварыла многае. У спісе студэнтаў Падуанскага універсітэта за 1596 год побач з Рэтлендам бельгіец Дэмблон знайшоў двух датчан, герояў «Гамлета» — Гільдэнстэрна і Розенкранца. Ён жа выявіў і запіс у кнізе Рэтлендава дварэцкага: у сакавіку 1613 года Шэксперу і акцёру Бербеджу выплачана па 44 шылінгі золатам. Але галоўнае: творчасць Шэкспера абрываецца ў 1612 годзе — тады, калі Рэтленд памёр... Аргументы важкія, але і яны — яшчэ не доказ.

*Сёння тайна Шэкспіра разгадана.* **Аўтар разгадкі — маскоўскі навуковец Ілля Гілілаў, які амаль 30 гадоў аддаў напружаным, сапраўды дэтэктыўным пошукам. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на дзве кнігі, што выйшлі з друкарні аднаго выдаўца — Эдуарда Блаунта, таго самага, што выпусціць першае шэкспіраўскае фоліо (кнігу, у гісторыі сусветнай культуры славутую амаль гэтак жа, як Біблія), «Доследы» Мантэня, «Дон Кіхот» Сервантэса і нямала яшчэ выдатных выданняў.**

Аляксандр ЛІПКОЎ

(Працяг будзе)

*БАЦЬКАЎШЧЫНА*



*У госці да сына.* *Фота М. Будчаніна.*

# ВЯСЕЛЫ УІК-ЭНД

### ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ

**Пад уздзеяннем кіслот і іншых агрэсіўных асяроддзяў рукі нямецкага хіміка Бунзена сталі, як ён сам гаварыў, вогнетрывалыя. Хімік імі вельмі ганарыўся і любіў дэманстраваць іх стойкасць да розных уздзеянняў. Паказваючы на лекцыі вынайдзеную ім гарэлку, ён змяшчаў палец у распаленае полымя і без поспеху паясняў:**

**— Звярніце ўвагу: тут, дзе мой палец, тэмпература полымя дасягае 300 градусаў па Цэльсію.**

### МАРКА ЗА АСЛА

**Аднойчы Нернст, нобелеўскі лаўрэат, будучы ўжо ў пажылым узросце, не справіўся з кіраваннем сваім аўтамабілем і наляцеў на латок з садавінай. Гандляр з гарачкі абазваў яго старым аслом.**

**— У колькі вы ацэньваеце свае страты? — спытаўся вучоны.**

**— У 14 марак, і ні пфеніга менш!**

**— Вось вам пятнаццаць, толькі забярыце назад старога асла.**

### АД АРХІМЕДА ДА ЭЙНШТЭЙНА

**Вучоным зусім не чужыя эмоцыі.**

**Даказаўшы сваю знакамітую тэарэму, Піфагор прынёс у ахвяру багам, што яго натхнілі, сто быкоў.**

**Архімед, адкрыўшы ў ванне закон аб выштурхоўванні целаў, змешчаных у вадкасць, так з ванны з крыкамі «Эўрыка» і выбег, забыўшыся апрануцца.**

**Ньютан, усведаміўшы, што адкрыў закон сусветнага прыцягнення, так расхваляваўся, што не здолеў нават зрабіць канчатковы разлік і вымушаны быў папрасіць дапамагчы кагосьці з асістэнтаў.**

**А калі Эйнштэйну далі фатаграфіі, якія сведчылі, што прадказанае ім адхіленне прамянёў святла ў полі цяжару сапраўды існуе, ён таксама не стрымаў захаплення:**

**— Трэба ж, такі дробназярністы друк! Проста цудоўна!**

### КАМЯНІ Ў ВЯНЕЦ

**Шведскі хімік Берцэліус так выказаў свае захапленне поспехамі свайго нямецкага калегі Воглера:**

**— Вы, спадар доктар, адшукалі слушны шлях да бессмяротнасці. Двума сваімі адкрыццямі — алюмініем і сінтэтычнай мачавінай — вы маглі б, як сапраўднымі каштоўнымі камянямі, упрыгожыць свой вянец.**

### «ТВОЙ БЫЛЫ СЯБРА»

**Англійскі геолаг Сэджвік у свой час прадказаў Чарлзу Дарвіну вялікую будучыню як вучонаму. Але, прачытаўшы яго працу «Аб паходжанні чалавека», так раззлаваўся, што пісьмо да славутага біёлага падпісаў так: «Твой былы сябра, а цяпер патомак малпы».**

### ЛІЧЫЦЬ НЕ ЎМЕЕ

**Эйнштэйн сябраваў з вядомым піяністам Артурам Шнабелем, які нярэдка акампаніраваў яму пры сумесным музіцыраванні. Славуты фізік, як вядома, вельмі добра граў на скрыпцы.**

**Аднойчы яны гралі нейкую цяжкую санату Моцарта, і Эйнштэйн час ад часу памыляўся. Шнабель яго папраўляў, але ў рэшце рэшт згубіў цярплівасць:**

**— Не тое, Альберт! — усклікнуў ён, стукаючы кулаком па клавішах.— Тут трэба раз-два-тры, раз-два-тры. Майн Гот, ты што, лічыць не ўмееш?**

### ДОБРАЯ НАВУКА

**Нямецкі хімік-арганік Адольф Бауэр, нобелеўскі лаўрэат, іранізіраваў нават над самім сабой.**

**— Спачатку,— казаў ён,— у мяне быў намер прысвяціць сябе матэматыцы і фізіцы, але ваенная служба перапыніла маё навучанне. Я прабыў год у берлінскім гвардзейскім палку і так здурнеў, што аб матэматыцы або фізіцы і гаворкі ўжо не магло быць. Так што я выбраў хімію: мяне ўпэўнілі, што па гэтай спецыяльнасці можна думаць толькі раз у квартал.**

**З кнігі «Учэні в анекдоце» (пераклад з польскай мовы і апрацоўка У. Траццякова).**

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 10.08.94 г.
Зак. 1042.
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123
Пры передруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.